






# СВЯТА
# БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

1 студзеня 1939 г. шчаслівы беларускі народ святкаваў сваё радаснае свята. У гэты дзень спаўнілася 20 год з дня ўтварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. У вялікай сям'і адзінаццаці савецкіх сацыялістычных рэспублік, у магутным СССР, цвіце і красуецца раўная сярод раўных Савецкая Беларусь—неад'емная частка вялікага Савецкага Саюза.

Савецкая Беларусь была раней забітая, цёмная і жабрацкая ускраіна царскай Расіі. За годы савецкай улады пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, пры брацкай дапамозе вялікага рускага народа і народаў усяго Савецкага Саюза яна ператварылася ў магутную сацыялістычную ордэнаносную рэспубліку. Беларускі народ з асаблівай удзячнасцю ўспамінае тыя вялікія клопаты аб сваім лёсу правадыроў партыі лепшых друзей беларускага народа Уладзіміра Ільіча Леніна і Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна, якія стварылі Савецкую Беларусь і зрабілі вельмі многа для абароны яе ад ворагаў.

Партыя Леніна—Сталіна пасылала ў Беларусь лепшых сваіх сыноў, якія аказалі вялікую дапамогу беларускаму народу ў яго барацьбе за свабоднае і шчаслівае жыццё. У Менску правёў вялікую работу Міхаіл Васільевіч Фрунзе, у Гомелі—Лазар Майсеевіч Кагановіч, у Віцебску работаў тады Нікалай Іванавіч Ежоў. На дапамогу беларускаму народу прыязджалі ў Беларусь Якаў Міхайлавіч Свердлоў і Міхаіл Іванавіч Калінін. У годы грамадзянскай вайны па даручэнню таварыша Сталіна на заходнім фронце самааддана работаў Серго Орджанікідзе. Ён асабіста хадзіў у разведку пад Барысавам і пад яго кіраўніцтвам Чырвоная армія адкінула белапалякаў за раку Беразіну. Дзякуючы вялікаму Сталіну беларускі народ атрымаў сваю дзяржаўнасць і будуе шчаслівае і радаснае жыццё.

За гэтыя 20 год да непазнавальнасці змянілася аблічча нашых гарадоў і вёсак. У Беларусі вырасла многа новых заводаў, фабрык, электрычных станцый, клубаў, школ, дзіцячых садоў і ясляў. У школах БССР вучыцца зараз больш мільёна вучняў.

Палескія балоты, якія былі непрахадзімыя, ператварыліся зараз у квітнеючыя ураджайныя палі, на якіх працуюць трактары, камбайны і другія машыны. У БССР, як і ва ўсім Савецкім Саюзе, выраслі новыя людзі прамысловасці, сельскай гаспадаркі, навукі, лепшых прадстаўнікоў якіх народ выбраў у Вярхоўны Совет СССР і БССР.

Ворагі народа хацелі адарваць Савецкую Беларусь ад Савецкага Саюза. Але яны пралічыліся! Ім гэта ніколі не ўдасца зрабіць! Беларускі народ будзе і ў далейшым выкрываць і бязлітасна знішчаць ворагаў, як-бы яны не хаваліся.

Няхай ведаюць фашысты, што ўсякая спроба напасці на нас сустрэне сакрушальны адпор Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі. Працоўныя Савецкай Беларусі, кіруемыя партыяй Леніна-Сталіна, будуць у першых радах змагацца за шчаслівае цэласнасць сваёй сацыялістычнай радзімы.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

СНЕЖАНЬ 1938 г. № 12

# МЫ

## ПОСПЕХІ НАШЫ Ў БАЯХ ЗДАБЫВАЛІ

Мы поспехі нашы ў баях здабывалі,
Да радасці партыя нас прывяла,
Вучылі вялікія Ленін і Сталін,
А дружба народаў нам сілу дала.
Разбіць ланцугі і пазбыцца былога
Нам рускі рабочы, як брат, дапамог,
І наша краіна з братэрскай падмогай
Няспынна да новых ідзе перамог.
Яна ўпершыню расцвіла як дзяржава!
Ад шчырага сэрца удзячна табе,
Бо ты даў ёй гэта законнае права,
Бо ты ўзгадаваў і стварыў КПБ.
Тут вучні твае нам яе узрасцілі,
Тут Фрунзе змаганне за партыю вёў,
Яднаў Кагановіч у Гомелі сілы,
У Віцебску сілы згуртоўваў Ежоў.
А гэтая партыя воляй адзінай
Здзяйсняла нязменна указы твае.
І наша балотна-лясная краіна
Сягоння ў чароўнай красе паўстае.

**(Урывак з пісьма беларускага народа Вялікаму Сталіну)**

# ЗНОЙДЗЕНАЯ РАДАСЦЬ

*Нарыс Хв. ШЫНКЛЕРА*

Пяцьдзесят год працуе ў Аршанскім дэпо Васілій Арцёмавіч Шурмін. Поўвека! І гэты доўгагадовы стаж амаль поўнасцю набываўся ў майстэрні водаснабжэння. Любіць, дасканала ведае сваю справу стары спрактыкаваны слесар. Акружаны ўсеагульнай любоўю і пашанай, спакойна і ўпэўнена робіць ён сваю непрыкметную, але адказную справу.

Не адзін раз, шануючы немаладыя годы Васілія Арцёмавіча, прабавалі майстры і брыгадзіры вызваліць яго ад цяжара паездак на лінію. Кідаліся на самую тонкую дыпламатыю і—пасавалі... Рамонт вадакачак слесар Шурмін лічыць сваім натуральным і законным правам і адмаўляцца ад яго не хоча.

Быў час, калі Васілію Арцёмавічу далікатна гаварылі пра яго заслужанае права на адпачынак. Яшчэ нядаўна ў хатніх размовах напаміналі яму артыкул Сталінскай Канстытуцыі пра забяспечаную старасць. Васілій Арцёмавіч дабрадушна ўсміхаўся ў бараду і хітравата пазіраў з-пад акуляраў. Ён ведае не толькі гэты артыкул, ён ведае і іншыя артыкулы Сталінскай Канстытуцыі. У іх запісаны ўсе вялікія правы совецкага грамадзяніна, запісана і права на радасць творчай працы.

Шмат год прыносіла праца Васілію Арцёмавічу толькі прыкрае нездаволенне. Яна адбірала ўсе сілы, яна спусташала жыццё. І толькі, калі мінула 55 год яго пакутнага жыцця, спазнаў слесар Шурмін, што праца можа хваляваць неабдымнай радасцю. І гэта радасць яму даражэй за ўсё, ён не адмовіцца ад яе, пакуль ёсць у руках сіла.

Яшчэ падлеткам, а потым і юнаком, горбіў спіну Васілій Шурмін у цяжкай працы на палях паноў і падпанкаў. 26-гадовым юнаком пайшоў ён з вёскі Шахава на прызыўны кліч паравозных гудкоў, паступіў чорнарабочым у Аршанскае дэпо. Тут, думалася, знойдзецца лепшая доля. А была яна такая, як і на сяле... Рабочы дзень лічыўся дзесяцігадзінным, але вымерванне яго было такое-ж як у паноў—працавалі „ад цямна да цямна“.

Прышоў Кастрычнік. Іншыя парадкі ўсталяваліся на чыгунцы. І адчуў Васілій Шурмін, што і ён чалавек. Роўны ўсім, не бясслоўны папіхач. Яго працоўны дзень не вымерваецца усходам і заходам сонца, працуе ён восем гадзін, працуе для сваёй соцыялістычнай дзяржавы. Дзяржава клапоціцца аб яго сям'і, дзецях.

* * *

З вялікай стараннасцю, аддаючы ўсе свае за доўгія годы набытыя, веды справе, якая стала любімай і роднай, працуе Васілій Арцёмавіч Шурмін. Ён лепшы ўдарнік у майстэрні водаснабжэння, ён адзін з першых стаханаўцаў-крываносаўцаў вузла. Сталінскі нарком Лазар Майсеевіч Кагановіч адзначыў выдатную работу 76-гадовага стаханаўца Шурміна і ўзнагародзіў яго ў 1935 годзе значком „Ударнику сталинского призыва“. 1935 год прынёс стаханаўцу Шурміну багата радасці. Ён быў у гэтым годзе на злёце стаханаўцаў - крываносаўцаў у Маскве, ён слухаў прамову любімага наркома, ён быў на Краснай плошчы, на велічным парадзе магутнай Чырвонай Арміі, ён бачыў вялікага Сталіна. Разам з стаханаўцамі-чыгуначнікамі, разам з усім народам ён вітаў мудрага бацьку і настаўніка, які сагрэў сваёй любоўю і клопатамі ўвесь народ, які даў яму—слесару Шурміну вялікую радасць творчай працы. Дзень, у які Васілій Арцёмавіч бачыў Сталіна, астанецца ў памяці як самы выдатны і светлы ў яго доўгім жыцці.

— На шырокую ясную дарогу вывела Совецкая ўлада маіх дзяцей,—кажа ён.— Уладзімір—бухгалтар дэпо, Георгій—электрамеханік, Пётр—па маёй лініі пайшоў і начальнікам маім зрабіўся... Самы малодшы— Нікалай ахоўвае марскія граніцы радзімы на Далёкім Усходзе. Усе добра працуюць...

Добрымі ўнукамі парадавалі мяне дзеці. Растуць мае ўнукі—вясёлыя, здаровыя. Дзевяць іх у мяне. Старэйшая ўнучка ў Маскве, вучыцца ў інстытуце замежных моў. І ва ўсіх маіх унукаў ясная дарога ў жыцці. Яе асвятляе сонца Сталінскай Канстытуцыі.

# ПЕСНЯ ПРА СТАЛІНА



Радуйся, святкуй, мая краіна,
І квітней няспынна з веку ў век,
Бо ў табе жыве любімы ўсімі
Найвялікшы ў свеце чалавек.
Для працоўных свету імя Сталін
Усіх імёнаў бліжай і радней,
Для працоўных свету мудры Сталін
Лепшы, найвыдатнейшы з людзей.
Ён вышэй за горныя вяршыні,
Прыгажэй квітнеючых лугоў.
Нават промням сонца не зраўняцца
З ясным, цёплым поглядам яго.
На палях калгасных, на заводах,
У глыбокіх шахтах, пад зямлёй
Сэрцы чалавечыя сагрэты
Ласкавай усмешкі цеплынёй.
А краіне зямлю Советаў вораг—
Біты быў і будзе біты зноў!
Любіць песціць нас вялікі Сталін,
Нібы бацька дочак і сыноў.
Ты, краіна, можаш ганарыцца,—
Бо няма такіх краін нідзе.
Правадыр і сын твой мудры Сталін
Лепшы, найвыдатнейшы з людзей.

*Запісана ў г. Гомелі.*
*(Пераклад з яўрэйскага).*

---

# КАЛГАСНЫЯ ЧАСТУШКІ

Ой у лузе, пры даліне
Клён зялёны расцвітаў.
Жыццё, радасць у краіне
Ленін з Сталіным нам даў.
Сталін—сэрца ўсёй краіны,
Сталін—мужны чалавек,
Правадыр для нас любімы.
Ён жыць будзе з веку ў век.
Вечар сіні, васількові
Дыша подыхам палёў.
Аб калгасным жыцці новым
Весялей мы запяём.
Бацька наш, любімы Сталін,
Даў закон навек вякоў.
І мацнець калгасы сталі
З кожным новым светлым днём.
Ты ляці, ляці хутчэй,
Птушачка крылатая,
Нясі Сталіну прывет
За жыццё багатае.
Запаліце гэту зорку,
Хай асвеціць увесь свет.
Мы з Совецкай Беларусі
Нясем Сталіну прывет.

# ЖЫЦЦЬ ШЧАСЛІВА СТАЛА



Як на нашым на Палессі
Дрэнна нам жылося,
Нават бульбы з года ў год
У нас тут не вялося.
А як знішчылі мы ўрад
Багачоў-памешчыкаў,
Засвяціла сонца нам—
Жыхарам Палесся.
І цяпер вось на Палессі
Сонца яснае гарыць.
Сталін родны, Сталін бацька—
Ды з Крэмля на нас глядзіць.
Цяпер радасна жывецца,
Гора мы не знаем,
Цяпер хлеба з года ў год
Усе мы ўдосталь маем.
У нас не толькі хлеба многа,
Ёсць да хлеба й сала.
Дзякуй, Сталін, дзякуй, родны,
Жыць шчасліва стала.

*Запісана ў калгасе „Шлях Ільіча", Старобінскага раёна.*



# У МЕНСКІМ ПАЛАЦЫ ПІОНЕРАЎ І ОКЦЯБРАТ

*Фотанарыс Б. РАВІЧА*

**Наша цудоўная краіна стварыла ўсе ўмовы для развіцця талентаў шчаслівых совецкіх рэбят. Кожны дзень залы і лабараторыі Менскага Палаца запаўняюцца піонерамі і школьнікамі.**

**1. Рэбята здаюць нормы на абаронныя значкі, вучацца страляць, каб быць гатовымі да абароны нашай дарагой радзімы. На першым фото-здымку вы бачыце, як гурткоўцы вывучаюць кулямёт.**

**2. Каб задаволіць жаданне рэбят, якія хочуць вывучыць сувязь, маецца ў Палацы добра абсталяваны пакой сувязі. У ім рэбяты знаёмяцца з пабудовай апарата сувязі.**

**3. А некаторых цікавіць пабудова мадэляў. У вольны ад вучобы час прыходзяць рэбяты ў лабараторыю, каб закончыць сваю мадэль.**

**4. Юныя мастакі ў сваёй студыі вучацца маляваць з натуры.**

**5. А хто хоча пагуляць, для тых у Палацы маецца більярд і многа іншых гульняў.**



3



1



4



2



5

# ВАЛЕРЫЙ ПАЎЛАВІЧ ЧКАЛАЎ

15 снежня пры выпрабаванні новага самалёта загінуў любімы сын совецкага народа, горды сокал краіны Советаў, Герой Совецкага Саюза, лепшы лётчык нашага часу Валерый Паўлавіч Чкалаў.

З пачуццём глыбокага жалю даведаліся працоўныя нашай краіны аб нечаканай смерці выдатнейшага пілота, цудоўнага чалавека, любімага Чкалава.



Вялікі жыццёвы шлях прайшоў Валерый Паўлавіч.

Сямігадовым хлопчыкам Валерый паступіў у сельскую школу, дзе вучыўся вельмі добра. Калі скончыў сельскую школу, ён паступіў у рамесленае вучылішча. Але больш года яму вучыцца не прышлося. Вельмі рана пачаў ён сваё самастойнае жыццё. Юны Чкалаў працаваў судовым качагарам на землечарпалцы і на пасажырскім параходзе, масленшчыкам на кацеры.

Ішоў суровы 1919 г. Маладая совецкая краіна была з усіх бакоў акружана ворагамі. Лепшыя сыны народа ішлі на фронты грамадзянскай вайны змагацца за новае лепшае і шчаслівае жыццё. 15-гадовы Чкалаў уступіў дабраахвотнікам у рады Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі. Ён атрымоўвае першую авіяцыйную спецыяльнасць—майстра па рамонту самалётаў. У тыя гады ўсе яго думы захапіла мара навучыцца лятаць, стаць пілотам. Не раз ён прыходзіў да загадчыка вытворчасці авіяпарка і заяўляў:

— Таварыш начальнік, хачу быць лётчыкам!

Хутка гэта мара юнака ператварылася ў сапраўднасць. У жніўні 1921 г. ён паступіў у Егор'еўскую школу лётчыкаў, а менш чым праз два гады ўжо самастойна кіраваў самалётам. Потым Чкалаў быў залічан у Маскоўскую школу вышэйшага пілатажу па класу знішчальнікаў, якую таксама скончыў з высокай ацэнкай.

Працуючы лётчыкам-выпрабавальнікам, Валерый Чкалаў вывучыў і аблятаў многія машыны. У час сваіх выпрабавальных палётаў, таварыш Чкалаў ні разу не карыстаўся парашутам. 2 мая 1935 года на цэнтральным аэрадроме імя Фрунзе Нарком абароны таварыш К. Е. Варашылаў прадставіў бясстрашнага пілота таварышу Сталіну. Распытваючы лётчыка аб яго рабоце, уважліва выслухоўваючы яго адказы, таварыш Сталін запытаў, чаму Чкалаў не карыстаецца парашутам, а стараецца выратаваць машыну. Валерый Паўлавіч адказаў, што ён лятае на вопытных, вельмі каштоўных машынах, губіць якія шкада. Іменна таму, ён стараецца выратаваць машыну, а ўжо разам з ёй сябе.

— Ваша жыццё, — даражэй нам любой машыны, — сказаў таварыш Сталін.

Праз некалькі дзён — 5 мая 1935 г. урад узнагародзіў таварыша Чкалава за неаднаразовую праяўленую мужнасць і смеласць пры выпрабаванні новых самалётаў ордэнам Леніна.

Уся наша краіна, увесь совецкі народ ведаюць бліскучы беспасадачны пералёт адважнай тройкі—Чкалава, Байдукова і Белякова па сталінскаму маршруту—Масква—Барэнцава мора—Зямля Франца-Іосіфа—мыс Чэлюскін—Петрапаўлаўск-на Камчатцы, які яны зрабілі ў 1936 г. За гэтую бліскучую перамогу ўрад прысвоіў камандзіру самалёта—Валерыю Паўлавічу Чкалаву і яго адважным спадарожнікам тт. Байдукову і Белякову званне Героя Совецкага Саюза, узнагародзіў іх ордэнамі Леніна.

Раніцой 18 чэрвеня 1937 г. аднаматорны самалёт, кіруемы Чкалавым стартаваў і лёг курсам на поўнач. Увесь свет з захапленнем сустрэў перамогу совецкіх лётчыкаў, якія праклалі новы паветраны шлях з Еўропы у Злучаныя Штаты Амерыкі праз Паўночны полюс.

Валерый Паўлавіч любіў дзяцей, вельмі любілі і яго нашы дзеці. Не гледзячы на яго частую занятасць, ён заўсёды прыходзіў к дзецям у школу і атрад і радаваўся поспехамі іх вучобы.

Бясстрашны і скромны Чкалаў усе свае сілы, вопыт і веды аддаў беззаветнаму служэнню нашай радзіме.

Загінуў дарагі, усімі любімы Чкалаў. Памяць аб ім будзе вечна служыць натхняючым прыкладам на слаўныя справы, на легендарныя подвігі ў славу вялікага совецкага народа.



# РАЗВІТАННЕ

П. БРОЎКА

Зямля мая!.. Журботны марш...
Зямля мая ў журбе...
Валерый Чкалаў! Сокал наш!
Няўжо няма цябе?

Навечна абарваны шлях,
Няўжо табе не жыць?
Няўжо над светам, па морах
Твой спеў не прагучыць?

Ты-ж вёў высока над Крэмлём
Крылатыя страі,
Ты-ж быў адважным важаком
Арлінае сям'і.

Няўжо табе не ўзляцець,
І шум матора змоўк?
Перад табою-ж часта смерць
Адходзіла на бок.

Няўжо смяротная пара
Палёт спыніла твой?
Я чую сум правадыра
Над свежаю труной.

Схіляе голавы народ,
Цябе праводзіць ён...
Я чую—чкалаўцаў палёт!
Іх многа!.. Іх мільён!..

# БУДЗЕМ ТАКІМІ ЯК ЧКАЛАЎ

* * *

Настаўніца расказала нам аб трагічнай смерці Валерыя Паўлавіча Чкалава. У першы момант я зусім не паверыў гэтаму. Рэбята нашага класа ўвесь дзень былі сумныя—толькі і гаварылі аб тав. Чкалаву. Наша краіна страціла любімага чалавека, але ў сэрцах людзей ён будзе вечна жыць. Мая мара—быць такім смелым, адважным, як Валерый Паўлавіч.

**Віня Горный**

Менск, 9-я школа, вучань 3-га класа.



*В. П. ЧКАЛАЎ З СЫНАМ ІГАРАМ.*

* * *

Балюча сціснулася сэрца калі мы пачулі, што загінуў Валерый Паўлавіч. Гэта быў выдатны, любімы чалавек. Я бачыла яго на Менскім вакзале. Ён вяртаўся з сваімі таварышамі—у Маскву, пасля вялікага пералёту. Лётчыкаў закідалі кветкамі, і я паднесла свой букет дарагому Чкалаву.

Мы многа чыталі аб яго пералётах. Яго любілі ўсе нашы дзеці.

Мы будзем добра вучыцца, каб быць такімі, як таварыш Чкалаў.

**Эма Серэбраннік**

Менск, 17-я школа.

# ЛЁТЧЫК—БАГАТЫР

Уся савецкая краіна з глыбокім жалем пачуе сумную вестку аб вялікай незваротнай утраце. На пасту геройскі загінуў дэпутат Вярхоўнага Совета СССР, Герой Савецкага Саюза, камбрыг Валерый Паўлавіч Чкалаў. Уйшоў ад нас першакласны сталінскі лётчык-багатыр.

Выхаванец вялікай партыі Леніна—Сталіна, ён зрабіў усё для памнажання славы сваёй соцыялістычнай радзімы.

Жыццё і работа Валерыя Чкалава цесна звязаны з імем таварыша Сталіна. Таварыш Сталін паказаў яму на карце маршрут ад Масквы да берагоў Охоцкага мора. Таварыш Сталін цікавіўся кожнай дробяззю яго палёта праз Паўночны полюс у Амерыку, клапатліва, па-бацькоўску напутстваваў яго ў далёкі шлях.

Хто ведаў гэтага чароўнага чалавека, ніколі не забудзе яго цеплыні, скромнасці.

Бывай, дарагі таварыш! Твае пералёты залатымі літарамі будуць упісаны ў гісторыю выдатных чалавечых дасягненняў.

**В. С. Молакаў.**

Герой Савецкага Саюза.



# Макарка Навак

*Апавяданне Я. КОЛАСА*).* *Рысункі А. ШАХРАЯ.*

Макарка і Лёнік пастаялі яшчэ трохі, покі адыйшоўся трактар і прыглух яго шум.

— Ну, займуся я трактарам,—рашуча сказаў Макарка:—зраблю мадэль, вывучу матор і ўсе часці і навучуся кіраваць трактарам, вось пабачыш.

— Давай зоймемся разам!—падхапіў Лёнік думку свайго прыяцеля.

— Давай!—згадзіўся Макарка.

Яны рушылі далей і з жарам вялі гутарку, як будуць рабіць мадэль трактара. Яны і не заўважылі, як амаль усутыч сыйшліся з незнаёмым чалавекам. Ён ішоў палявою дарожкай і якраз выходзіў на вялікую дарогу, якою ішлі Макарка і Лёнька. Нічога асаблівага не было ні ў постаці гэтага чалавека, ні ў яго абліччы, ні ў адзенні,—звычайны чалавек, сярэдняга росту, чарнявы. На выгляд яму было не болей, як трыццаць гадоў.

— Куды гэта ідзецe вы, хлопчыкі?—запытаў незнаёмы чалавек. Запытаў ён прыязна і бястурботна. Так мог гаварыць чалавек, у якога на сэрцы поўны спакой і ніякіх ліхіх думак у галаве.

Макарка і Лёнік прыпыніліся.

— А мы сабе так ідзём—гуляем,—адказаў Макарка, а Лёнік дадаў у тон свайму сябру:

— Збіраем калекцыі.

— О, якія вы малайцы!—пахваліў іх незнаёмы чалавек і запытаўся ізноў:

— То мусіць вы—школьнікі?

Хлопцы адказалі не адразу.

— А навошта вам гэта ведаць?—запытаў Макарка.

Незнаёмы чалавек дабрадушна засмяяўся.

— Малайцы! Слаўныя вы рэбяты! Не ўсё трэба гаварыць кожнаму, хто папытаецца ў вас, асабліва, калі вы яго не ведаеце. Вось і я: а можа я—ліхі чалавек, шпіён які-небудзь?.. Вы-ж не ведаеце мяне.—І ён уважліва паглядзеў на Макарку і Лёніка, прыветна кіўнуў ім галавою і, перасекшы вялікую дарогу, пайшоў далей палявою дарожкай. Здзіўленыя спатканнем і гутаркаю з незнаёмым чалавекам, Макарка і Лёнік недаўменна і моўчкі зірнулі адзін аднаму ў вочы. Незнаёмы-ж чалавек, прайшоўшы крокаў дваццаць, аглянуўся і тонам нібы ўжо знаёмага з імі чалавека запытаў:

— А што—пападу я гэтай дарогай у Падбор'е?

— Пападзеце,—адказалі хлопцы.

Незнаёмы чалавек павольна пайшоў далей.

Макарка раптам схапіў Лёніка за руку.

— Пойдзем сюды!—сказаў ён і пацягнуў яго ў бок з дарогі за яе выступ і спыніўся.

— Як ты думаеш, што гэта за чалавек?

У голасе Макаркі чулася нейкая трывога. Яна перадалася і Лёніку. Лёнік недаўменна ўскінуў плячыма і ціха сказаў:

— Ведаеш, Макарка, што: давай мы схаваемся так, каб нас не відаць было, а мы каб яго бачылі—куды ён пойдзе.

Прыгнуўшыся, яны борздзенька прайшлі выемкаю дарогі і ўзыйшлі на яе вал, дзе былі кусцікі, і прылеглі за імі. Макаркі і Лёніка не відаць было, дарожка-ж на Падбор'е і чалавек на гэтай дарожцы ім добра былі відны. Яны пільна сачылі за незнаёмым чалавекам, ахопленыя пачуццем нейкага непакою.

— Калі зверне ў кусты, дык гэта—адтуль,—ціхенька сказаў Лёнік і кіўнуў на граніцу. Макарка маўчаў, баючыся хоць на момант спусціць з вачэй незнаёмага чалавека. У меру таго, як чалавек гэты падыходзіў да хмызняка, узрастала хваляванне Макаркі і Лёніка. Вось ён параўняўся з зараснікам. Яго постаць нібы на момант спынілася, а потым раптам знікла. Засталася адна дарога і зялёны астравок зарасніка. Але чалавек павінен зараз паказацца ізноў: край зарасніка, праз які праходзіць дарога, не вялікі—мінута хады, не болей. Ды чалавек не паказваўся.

— Пашыўся ў кусты,—прашаптаў устрывожаны Макарка.

— А пытаў дарогу на Падбор'е!—таксама ціха азваўся Лёнік.

Яшчэ некалькі хвілін пазіралі яны на дарогу,—чалавека не было.

— Лёнік, гэта—шпіён!—сказаў Макарка, і ўпэўненасць чулася ў яго голасе.

— Шпіён!—пацвердзіў Лёнік, і заклапочанасць легла на яго твар.

— Што-ж нам рабіць?—запытаў ён:—схаваецца гад, уцячэ!

У Макаркавай галаве раптам узнікла думка.

*) Канец. Пачатак чытайце ў №№ 10, 11.

— Вось што, Лёнік: сядзі тут, каравуль, а я— на заставу!

— Бягай, бягай—напрасткі! А я буду глядзець... А то можа я пабягу?

— Не. Лёнік, ты аставайся тут і глядзі, ці не пакажацца ён і куды ён пойдзе.

III

Лёнік астаўся адзін на сваёй варце. Ён не спускаў з вачэй таго месца, дзе знік незнаёмы чалавек, глядзеў на дарогу за хмызняком і на ўсе выхады з хмызняка. Ён толькі зрэдку пераводзіў вочы ў той бок, куды пабег Макарка. А Макарка спяшаўся хутчэй дабегчы да заставы. Ён выбіраў такія мясціны, каб не кідацца нікому ў вочы, асабліва каб не згледзіў яго той страшны і ліхі чалавек і каб не разгадаў яго намер. Некалькі разоў мільгнула яго шапка ў Лёнькіных вачах, а потым Макарка зусім схаваўся за ўзгоркамі, што ішлі ў бок заставы.

Лёніку спачатку было трохі страшна. А што калі гэты ліхі чалавек дагадаецца і паверне назад? А можа ён пяройме дзе-небудзь Макарку?.. А можа гэта і не ліхі чалавек, і яны дарэмна падымаюць трывогу, а на заставе толькі пасмяюцца з іх. Але Лёнік пільна стаяў на варце і зорка пазіраў, каб не прапусціць таго чалавека.

Калі большая частка дарогі заставалася ззаду і перад вачамі Макаркі паказалася застава, тады толькі ён перавёў дух і ўздыхнуў вальней. Ад бегу і шпаркай хады шчокі яго разгарэліся, як мак, і сэрца стукала моцна і часта. Цяпер ён ішоў крыху спакайней і думаў пра тую гутарку, якая павінна адбыцца ў яго на заставе аб тым няпэўным чалавеку, якога трэба было праверыць. Ён быў пераконан, што паступае правільна, і гэта прыдавала яму смеласці. Каля варот заставы стаяў з вінтоўкаю пагранічнік—чырвонаармеец. Ён здалёк згледзіў Макарку і павярнуўся ў яго бок. Усё Макаркава аблічча казала за тое, што ён ідзе з нейкрімі навінамі. Кроках у двух ад вартавога Макарка спыніўся. Чырвонаармеец пазіраў на Макарку, а Макарка глянуў у вочы чырвонаармейцу.

— Што скажаш дружок?—запытаў чырвонаармеец.

— Мне на затаву да начальніка.

— Што хочаш сказаць яму?

— Мы бачылі нейкага чалавека... відаць, ён перайшоў граніцу.

Чырвонаармеец болей не распытваў Макарку і толькі сказаў:

— Пастой трохі тут,—і хутка падаўся да варот ў невялікую прыбудоўку. Праз колькі хвілін чырвонаармеец вярнуўся, а яшчэ праз хвіліну ў дзвярах прыбудоўкі паказаўся высокі і статны лейтэнант. Ён быстра акінуў вачамі Макарку.

— Ну, расказвай, брат, што там такое,—звярнуўся ён да Макаркі. Макарка тарапліва, часамі глытаючы словы, расказваў пра спатканне з незнаёмым чалавекам і пра тую гутарку, якая паказалася і Макарку і Лёніку падазронаю. А самае важнае ў паводзінах незнаёмага чалавека было тое, што ён распытваў пра Падбор'е, месца, дзе знаходзіцца застава, тым-жа часам ён звярнуў з дарогі ў Падбор'е і знік у зарасніку. Камандзір слухаў уважна. Потым паставіў цэлы рад кароткіх пытанняў, як выглядае незнаёмы чалавек, малады ён, ці стары, нізкі ці высокі і як ён адзеты. Макарка даваў дакладныя адказы.

— Добра!—сказаў начальнік:—пастой тут!

Лейтэнант быстра павярнуўся, аддаў нейкі загад. Зараз-жа з двара заставы пачулася тухканне конскіх капытаў. Да варот пад'язджалі два конных чырвонаармейцы з аседланым канём для камандзіра. Адзін чырвонаармеец сядзеў у сядле з сабакам, падобным да ваўка. Вартавы расчыніў вароты.

— Ну давай!—сказаў камандзір і спрытна ўскочыў на каня.

— Давай сюды, браток!—камандзір падаў Макарку руку.

Вартавы чырвонаармеец лёгка падхапіў Макарку, і Макарка не апомніўся, як ён апынуўся ў сядле разам з камандзірам.

— Трымайся за мяне і паказвай дарогу.

Макарка горда сядзеў у сядле ўперадзе камандзіра.

Лёнік пачынаў ужо непакоіцца, ці не здарылася чаго з Макаркам. Як ні глядзеў ён на заараснік, нікога там не было. Цяпер ён часта пераводзіў вочы ў той бок, адкуль павінен быў паказацца





Макарка. І раптам зусім з другога боку і зусім нечакана згледзеў ён трох пагранічнікаў вярхом на канях. Радаснае здзіўленне Лёніка яшчэ болей узрасло, калі ён убачыў Макарку на адным сядле з перадавым коннікам. На тым месцы, дзе з імі сустрэўся незнаёмы чалавек, усе тры коннікі спыніліся і пазлазілі з коней. Лёнік ужо быў памкнуўся бегчы да іх, ды спыніўся спалоханы: да яго бег Гун. Але Гун лагодна абнюхаў Лёніка і глянуў яму ў вочы, нібы хацеў сказаць: „Ведаю: ты—прыяцель Макаркаў“. А Макарка гукнуў:

— Не бойся, Лёнік: ён не ўкусіць. Бягай сюды!

Лёнік падбег да пагранічнікаў і па-піонерску прывітаўся.

— Ну, што бачыў на сваёй варце?—запытаў лейтэнант.

— Глядзеў я ўвесь час, але ён болей не паказваўся. Знік.

— А дзе іменна тое месца, дзе вы з ім гаварылі?—запытаўся лейтэнант Макарку і Лёніка.

Яны дакладна паказалі. Чырвонаармеец узяў сабаку на повадок і паказаў след прайшоўшага з гадзіну таму чалавека. Гун абнюхаў след і раптам змяніўся ў сваіх паводзінах: прыўзняў вушы, падняў галаву, панюхаў навокал паветра і падаўся ў бок зарасніка, цягнучы за сабою чырвонаармейца. Лейтэнант загадаў аднаму пагранічніку ехаць конна побач пагранічча і ў пэўным месцы ўзяць улева і ехаць на такое то месца. Пагранічнік паўтарыў загад і са словамі „ёсць, таварыш камандзір“, паскакаў па ўказаным кірунку. Лейтэнант і другі пагранічнік рушылі дарожкай у бок зарасніка. Макарка і Лёнік ішлі за імі: яны папрасілі дазволу дайсці з пагранічнікамі хоць да таго месца, дзе знік незнаёмы чалавек. Да зарасніка было не болей, як поўкілометра. Макарка і Лёнік падыходзілі да яго ў вялікім хваляванні: у гэтым зарасніку, на іх думку, павінна разгадацца загадка аб незнаёмым чалавеку. Сабака ўвесь час ішоў па слядах. Вось і зараснік. Сабака з дарогі не зварочваў і толькі ў тым месцы, дзе дарога пакідала зараснік і падымалася на горку, Гун павярнуў направа і вёў ускрайкам зарасніка, а потым звярнуў у зараснік. Чым далей, тым гусцей станавіўся зараснік, прабірацца з конямі тут было трудна.

Лейтэнант спыніўся і сказаў:

— Коней пакінуць тут.

— Мы пабудзем каля іх!—азваўся з кустоў Макарка. Яны зводдаль ішлі за пагранічнікамі. Ім так хацелася быць з імі і хоць чым-небудзь дапамагчы.

— А, вы ўсё тут!—сказаў лейтэнант:—далей ні на крок! Вярнецеся назад, а калі хочаце, дык чакайце нас там у зарасніку каля дарогі.

Макарка і Лёнік спыніліся каля дарожкі ў зарасніку і чакалі. Зрэдка то адзін, то другі адыходзіліся трохі воддаль, дзе было зусім ціха і нішто не замінала ім слухаць. Навокал стаяла маўклівая цішыня.

Макарка раптам увесь аж падскочыў.

— Глядзі, Лёнік: унь, бачыш, нейкія людзі! Макарка паказаў рукою на густы лес. І сапраўды, з правага крыла лесу, што абступаў поле іх калгаса, вырысаваліся на момант малюсенькія чалавечыя фігуркі, але зараз-жа зніклі. Некалькі хвілін хлопцы стаялі моўчкі і прагна ўзіраліся ў тое месца, дзе паказаліся людзі. Лёнік бачыў іх толькі на адзін міг.

— Колькі іх было?—запытаў ён.

— Ці то два ці тры,—адказаў Макарка.

Хваляванне іх узрастала, але постаці людзей не паказваліся. Аж непадалёку адтуль праімчаўся чалавек на кані.

— Гэта яны, нашы!—крыкнуў Лёнік.

Яны добра бачылі верхавога, але і ён схаваўся. Праз некалькі хвілін на грэбні ўзгорка ў некаторай адлегласці ад лесу паказаліся тры чалавекі. Цяпер яны выдаваліся шмат большымі. Яшчэ праз момант выплыла і постаць чалавека на кані. Ён далучыўся да групы з трох чалавек і ехаў ступою крыху збоку ад іх. Так, гэта яны, пагранічнікі. Але Лёнік пасеяў вялікае сумненне.

— Макарка!—сказаў ён:—гэта, мусіць другія пагранічнікі.

— Чаму ты так думаеш?—запытаў Макарка.



— А чаму сабакі не відаць?

Макарка сумеўся. І праўда—сабакі не было.

Уся група, трое пешых і адзін конны, паволі набліжаліся. Макарка і Лёнік чакалі з заміраннем сэрца. Цяпер усё было відаць добра: конны пагранічнік, чырвонаармеец у руках з вінтоўкаю напагатове, а перад ім у двух кроках, унурыўшыся, ішоў той самы незнаёмы чалавек. Лейтэнант замыкаў групу. Макарка і Лёнік хутка накіраваліся да пагранічнікаў. Камандзір даў пагранічнікам нейкі загад, а сам пайшоў насустрач хлопцам.

— Ну, рэбяткі,—спытаўся ён:—той гэта ці не?

— Той, той!—разам падцвердзілі Макарка і Лёнік.

— Дзякуй вам, рэбяткі: гуся злавілі мы важнецкага!

— Дзядзя!—звярнуўся да яго Лёнік:—а дзе-ж сабака?

Лейтэнант крыху нахмурыўся.

— Загінуў бедачына,—з ноткай жалю сказаў ён:—застрэліў яго негадзяй гэты. Думаў выратаваць сваю прадажную скуру, ды не прышлося.

Лейтэнант запытаў прозвішча Макаркі і Лёніка, дзе яны жывуць і дзе вучацца, і ўсё гэта запісаў у кніжачку, яшчэ раз падзякаваў іх, як гарачых патрыётаў сваёй зямлі, і развітаўся з імі.

* * *

Праз дзён дзесяць урачысты сход адбываўся ў школе. На відным месцы за сталом прэзідыума сядзелі Макарка Навак і Лёнік Атрушкевіч. На трыбуне—начальнік пагранічнай заставы. У простых і жывых словах гаварыў ён сходу аб нашым светлым жыцці, здабытым упартаю працаю і сумеснаю барацьбою ўсіх народаў вялікай Совецкай зямлі пад сцягам гераічнай партыі Леніна—Сталіна. Ён расказаў, з якою нянавісцю глядзяць фашысцкія разбойнікі на нашу краіну: росквіт совецкай зямлі і добрабыт яе народаў—смяртэльная небяспека для фашызма, асуджанага на пагібель. Яго агентура пускаецца на ўсё, каб шкодзіць нам і падрываць нашу моц. Але дарэмны яго патугі. З'яднаны, магутны совецкі народ—вялікі патрыёт сваёй зямлі не дапусціць фашысцкую поскудзь паганіць яе.

Цэлы рад прыкладаў прывёў прамоўца, як пільна і свята ахоўвае свае рубяжы совецкі народ і дапамагае пагранічнікам вынішчаць фашысцкую нечысць.

— Я рад,—сказаў прамоўца,—папоўніць гэты прыклады яшчэ адным новым прыкладам.

Начальнік заставы паказаў на Макарку і Лёніка. Многалюдны сход горача і доўга вітаў піянераў-герояў воплескамі. Прамоўца расказаў сходу гісторыю, як быў злоўлены незнаёмы чалавек. Ён аказаўся вельмі буйным шпіёнам.

Ад імя пагранічнікаў Макарку і Лёніку была выказана падзяка і прыпаднесены цэнныя падарункі.

Макарка і Лёнік адчувалі сябе шчаслівымі і гордымі, бо яны чэсна выпаўнілі перад радзімаю свой піонерскі абавязак.



**Народны пясняр Казахстана ДЖАМБУЛ-ДЖАМБАЕЎ**

# ПЕСНЯ
# ПРА МУДРЫ СТАЛІНСКІ ЗАКОН

Паэты свабоды вякамі чакалі,
І з марай пра шчасце яны паміралі,
А мы прычакалі Вялікі Закон,
Палае крэмлёўскаю зоркаю ён.
Два годы, як слова Закона гарыць,
Два годы, як сонца над светам гарыць!
Маладасць ходзіць у бурнай крыві,
Сэрца напоўнена песняй любві.
Слухайце праўду, любіце яе,
Чуйце, як юнае сэрца пяе!

Права народаў цвіце, як сады,
Закон твой за сонца ясней,—правадыр!
Словы, як зоры, праменні ліюць,
Словы-асілкі нам шчасце даюць.
Закон гэты радасць народам прынёс,
Народам сусвету ён мудрасць прынёс;
Права народам усім працаваць,
Права вучыцца і адпачываць.
Права на старасці песні спяваць,
Права краінай сваёй кіраваць.
Ён створан навекі каб радаваць свет,
Тварэц яго Сталін—вялікі паэт.
Промені шчасця над светам гараць,
Зоры-рубіны на вежах гараць,
Золатам хлеба заззялі палі,—
У свеце няма шчаслівейшай зямлі!
Законам вялікім сусвет асвятлён,
Няхай жыве сталінскі мудры закон.

---

# МОЙ ШЧАСЛІВЫ ДЗЕНЬ

Важатая звяна Ніка Ільіна, хвалюючыся, кажа піонерам:

— Сёння ў нас непрыемная гісторыя. Ваня Лапкоўскі атрымаў „дрэнна“ па рускай мове.

— Скажы, чаму ты не рыхтуеш урокаў?

Ваня нагаварыў безліч прычын, але ўсе рэбята вырашылі, што ён можа вучыцца добра, толькі лянуецца.

Звяно Ільіной збіраецца часта абмяркоўваць такія пытанні—не прапускаюць ніводнай дрэннай адзнакі, бо яны-ж спаборнічаюць. Сама важатая Ніка за першую чвэрць атрымала па ўсіх дысцыплінах „выдатна“.

— Вучоба ў нас на першым плане,—кажа яна.—У чарговыя звеннявыя заняткі мы праводзім тое, што па плану,—чытаем „Пионерскую правду“, вывучаем новыя песні. Наогул, мы надзвычайна добра праводзім свой вольны час.

* * *

Аднойчы рэбята апавядалі адзін другому пра самы шчаслівы дзень іх маленькага жыцця. Шмат аб чым гаварылі яны: і пра сваю вучобу, і пра тое, што ўлетку многія з іх ездзілі на Каўказ, у Крым, і адпачывалі ў лагерах.



*НІКА ІЛЬІНА вучаніца VI класа 4 Менскай школы.*

— А ў маім жыцці быў адзін такі цудоўны дзень і я яго ніколі не забуду,—кажа Ніка Ільіна.

І яна расказала наступнае:

— Аднаго разу напярэдадні Першага Мая паехала я з мамай у Маскву, к родным. У дзень свята мы таксама пайшлі на дэманстрацыю. Як толькі наша калона праходзіла каля трыбуны, дэманстранты пачалі крычаць голасна „ура“ і апладыраваць... Я паглядзела, але нічога не было відна з за дарослых. Тады мяне трошкі прыўзнялі і я ўбачыла на трыбуне таварыша Сталіна. Побач з ім стаялі таварышы Варашылаў, Молатаў, Калінін. Іосіф Вісарыёнавіч быў у белым касцюме і белай шапцы. Ён махаў рукой і па-бацькоўску ўсміхаўся. Мне здавалася, што ён глядзіць іменна на мяне, і я адразу адчула вялікую гордасць і радасць.

**О. Мачарадзе.**



# Новагодняя ёлка

*Казка Х. МАЛЬЦІНСКАГА* *Рысункі Н. МАЛЕВІЧА*

Заскрыпеўшы палазамі,
Раптам сталі ў лесе сані,
Конь стаміўся, конь прыстаў,
Пасярод дарогі стаў.
Галаву спусціў, і з месца
Аніяк ён не скранецца.
Недаехаў, недавёз,
Бо цяжкі наклалі воз.
На санях, адзеты ў футра,
Што пашыта з перламутра,
З беласнежнай барадой,
Лейцы дзержачы рукой,
Дзед-мароз сядзіць, і ціха
Кажа коніку:—вось ліха!
Ды яшчэ пад новы год,—
Конік мой, ляці ўпярод!
І трасе ён барадой:—
Ну, спяшайся, конік мой!
Верны конік як ні пнуўся,—
Воз і з месца не скрануўся.
Пасярод шляху стаіць.
Што-ж парадзіць? Як тут быць?
Вылез дзед тады. І гнеды
Сані цягне разам з дзедам,
Разам цягнуць і сапуць,
Але сані ўсё-ж не йдуць.
Выгляд дзед зрабіў сярдзіты:—
Н-но! Вязі пакуль не біты.
Мы павінны быць хутчэй
З падарункамі ў дзяцей,
Я табе кажу сур'ёзна,—
І ўзнімае пугу грозна.
Потым ласкай хоча ўладзіць,
І каня пяшчотна гладзіць:—
Ну, вязі, ты-ж знаеш сам,
Дзеткі нас чакаюць там.
Разумее конь ці не?—
Санак з месца не скране.
Дзед-мароз пакінуў лейцы,
Сум у беднага на сэрцы,
І паважна, як знаток,
Аглядае свой вазок.
Ой, якія падарункі:
Тут пакеты, там пакункі,
Зайчыкі, вавёрачкі,
Залатыя зорачкі,
Шышкі, яблыкі і шмат
Лялек з косамі да пят,
Сотні мішак і сланоў,
Сем мяшкоў адных канькоў,
Маленькія талерачкі,
Салодкія цукерачкі.
Мандарынак смачных колькі,—
Ўсё, чаго захочаш толькі!
— Праўда,—буркнуў дзед-мароз,—
Цяжка везці гэткі воз.
Не зашкодзіла-б да рэчы,
'Шчэ сюды каня прыпрэгчы.
І стаіць стамлёны гнеды,
Слухае ён скаргі дзеда:
— Там ужо гуляюць дзеці,
Каля ёлкі ў яркім свеце,
І пытаюць пра мяне—
Ці прыехаў дзед ці не?
А я ў лесе, ля бярозы,
Выціраю хусткай слёзы.
Вось пачуўшы дзедаў плач,
Па густым галлі наўскач
Гэтак спрытна, гэтак вёртка
Да саней ляціць вавёрка.
— Дзед-марозік, мой сівенькі,
Што сумуеш, даражэнькі?
Вытры слёзы, ды скажы
Чым табе дапамагчы?
— Там ужо гуляюць дзеці,
Каля ёлкі ў яркім свеце,
І пытаюць у мяне—
Ці прыехаў дзед, ці не?
А я ў лесе, ля бярозы,

Выціраю хусткай слёзы.
Вось бярэ вавёрка слова:
— Для дзяцей на ўсё гатова,
Я табе дапамагу,
Мой дзядуля, як магу.
І вавёрачка з марозам
Падышлі ўдваіх да воза.
Узяліся так старанна,
Аж упалі нечакана.
І, ўсміхнуўшыся ёй міла:—
Не з тваёй, вавёрка, сілай,—
Кажа ветла дзед-мароз,—
Нам давезці гэткі воз.
Ён ізноў заплакаў горка,
І падумала вавёрка:
„Трэба ўсіх вавёрак зваць,
Каб ішлі дапамагаць".
І, падняўшы хвост дугой,
Хутка знікла за сасной.
За вавёрачкаю следам
Прыскакаў тут заяц к дзеду.
— Дзед-марозік, мой сівенькі,
Што сумуеш, даражэнькі?
Вытры слёзы, ды скажы
Чым табе дапамагчы?
— Там ужо гуляюць дзеці,
Каля ёлкі ў яркім свеце,
І пытаюць пра мяне—
Ці прыехаў дзед ці не?
А я ў лесе, ля бярозы,
Выціраю хусткай слёзы.
Зайка слухае з увагай,
Потым кажа ён з адвагай:
— Для дзяцей гатоў я, дзед,





Памагчы табе, як след.
Смелы заяц падхрабрыўся
За аглобню ухапіўся,
Ды скрануць саней не мог—
Цяжкавата трохі ўдвох.
—Добры план,—ён кажа,—маю:
Праімчуся я па гаю,
Трэба ўсіх зайцоў пазваць.
Каб прышлі дапамагаць.
Павярнуўся зайка ўбок
І ў густую пушчу—скок.
Позні час, паснулі елі,
У небе зоркі заблішчэлі.
Ехаць самая пара,
Там чакае дзетвара.
Раптам к возу скок лісічка,
Ў лесе першая хітрычка.
— Дзед-марозік, даражэнькі,
Што-ж смуткуеш, мой сівенькі?
Смелы заяц каля бору
Расказаў тваё мне гора.
Я хачу табе параіць—
Трэба трохі грузу збавіць,
Ты на снег цукеркі скінь,
Вартаваць мяне пакінь.
Дзед тады ўзнімае пугу
На лісіцу-валацугу:
— Ах ты, хітрая, хутчэй
Прэч адгэтуль, ад саней,
Бо табе твой хітры нос
Адмарожу я, мароз!
І пабегла прэч лісічка,
Ў лесе першая хітрычка.



Не паспеў ёй кінуць дзед
Вострых стрэл сваіх услед,
Як прыходзіць паглядзець
На гасцінцы сам мядзведзь.
Пояс ён надзеў з кутасам
І марозу кажа басам:
— Ходзяць, дзеду, ў лесе чуткі,
Ходзяць гэткія пагудкі,
Што твой верны конь пристаў,
Пасярод дарогі стаў.
Дзеду любы, слухай—скінь
Шакаладак пару скрынь,
Я іх буду даглядаць!
Пільнаваць і вартаваць.
Дзед тады ўзнімае пугу
На мядзведзя-валацугу
І крычыць:—Табе не спіцца,
Прэч бяжы адсюль, дурніца,
Бо табе я, Мішка, ўраз
Вырву з пояса кутас.

І пабег у пушчу Мішка,
Як спалоханы зайчышка.
Сотню стрэл сваіх услед
Кінуў Мішку сівы дзед.

. . . . . . . . . . . . . . .

Пачалі зайцы збірацца,
Адусюль ваверкі мчацца,
З дрэў уніз злятаюць птушкі,
Непаседы-шчабятушкі.
І стаіць у лесе гоман:—
Хутка сані будуць дома!
Дружна ў сані упрагліся—
Сані з месца падаліся.
Конь ізноў іржэ бадзёра—
Ў горад мы прыедзем скора!
Рад ад сэрца дзед-мароз,
Ён залез сабе на воз,
Барадой трасе калматай,—
Ён не спозніцца на свята!
Вось і лес мінулі. Шлях
Прасціраецца ў палях,
Усё бліжэй к садам дзіцячым.
Вось мы светлы горад бачым.
Вось і дзед спаўзае з санак
І ўзыходзіць ён на ганак.
Каля ёлкі ў яркім свеце
Распяваюць песні дзеці
Аб краіне нашай вольнай,
Аб шчаслівай, аб цудоўнай.
К ім заходзіць дзед-мароз,
У яго гасцінцаў воз.
Падыходзіць к карагоду,
І вітае з Новым Годам.
І дае ўсім гасцінцы
Па мяшочку і па скрынцы,
Колькі кожны пажадае,
Шчодрай жменяй падсыпае,
Каб смяяліся, гулялі,
Каб шчаслівы год віталі,
І расказвае са смехам,
Як на свята ён прыехаў.

Пераклаў з яўрэйскай мовы
А. Зарыцкі.






*Казка С. МАРШАКА.*

*Рысункі КУКРЫНІКСЫ.*

Кургузая, злая гіена,
Акула і воўк-жывадзёр
Цішком заключылі
Ваенна-
Гандлёва-
Марскі
Дагавор.
Напісана ў тым дагаворы,
Што долы і горы, і мора,
І неба з яго сінявой
Падзеляць яны між сабой.
Падзеляць
На роўныя
Трэці—
І царстваваць
Будуць
На свеце.
Акула
Жыла ў акіяне,
Гіена—
Ля мора ў пясках,
А воўк
Вандраваў у тумане
І выў ад тугі на шляхах.
Патомственны воўк,
Чыстакроўны,—
Апошні
Ў сваёй радаслоўнай.
Бывала, па лесе, па нівах
Ён бродзіць уночы, як цень.
Усё воўку здаецца спажывай,
Што дыша, цвіце і расце.
— Сін'ёры!—сказала гіена,—
Мы звязаны клятвай свяшчэннай.
Хай кожны свой здзейсніць зарок!
— Банзай!—адказала акула
І скоса, па-рыб'і, зірнула
На воўка худога, а воўк
Клыкамі галоднымі—шчсўк!
А потым,—вам знаць не зашкодзіць,—
Гіена спажыву знаходзіць.
Лічылася самай шчаслівай





Між сяброў зубастых яна—
Ў пясках Абісініі, Лівіі
За трох рабавала адна.
А потым пабегла ў Іспанію
І воўка ўзяла за кампанію,
Як роўнага з ёй у правах
На скуру іспанскага льва,
На львіную грыву яго,
На сэрца, на кроў, на ўсяго!
Ды толькі, вядома, зарана ім
Дзяліць незабітага льва!
Крывавая бітва ў Іспаніі
Не месяц ідзе і не два.
Калі-ж па цячэнню ты пойдзеш
Харамы—іспанскай ракі,—
Ты зубы гіены там знойдзеш
І вострыя воўка клыкі.
Запомніць гіена удары,
Каторыя леў ёй нанёс,
У бітвах ля Гвадалахары,
Куды яна сунула нос.
Знайшлася яда для гіены
У глыбах магільнай зямлі,
Крывёю распоратай Вены
Воўк прагную морду заліў.
А трэцяя з банды—акула
Ваюе з відна да відна:
У бітву акула рыскнула
З кітом увязацца адна.
„Сажру вось палову кіта я
І сытая буду якая
Дзянёчак ці два, а затым—
Астатняе будзе маім!"
Падумаўшы гэтак, акула
Зубасты раззявіла рот,
Шурпатае бруха надзьмула
І дзёрзка паплыла ўпярод.
Ды злопаць кіта, як сялёдку,
Сілы ў яе не стае:
Не лезе ён ў прагную глотку,
Бо глотка малая ў яе!
Чым скончыцца гэтая казка,
Якая-ж у казцы развязка,—
Мы потым раскажам аб тым,
Ды толькі вядома усім:
Усё, што ў сусвеце безмежным
Жыве і рыхтуецца жыць,
Ваўкам і гіенам драпежным
Не можа здабычай служыць.
Няхай дагаворы ствараюць
І зброяй бандыты грымяць,
Ды сілы забойцы не маюць
У света свабоду забраць.
Вазьміце вінтоўкі, рэбяты,
І дружна затворамі—шчоўк!
Не злопаюць вашага брата
Акула, гіена і воўк!

Пераклаў з рускай мовы А. Зарыцкі.



# ПЕРШЫЯ СНЯЖЫНКІ



*Верш Я. ЖУРБЫ*

Весела люба нам,
Хоць і марозна:
Цёпла за гульнямі—
Зімка не грозна.

Шумна забегалі
Тут у дагонкі,
Гулка пакоціцца
Голас наш звонкі.

Жыва праложым тут
Новыя сцежкі.
Дружна наладзім мы
Гульні ў снежкі.

Лётаюць, сыплюцца
Снежныя зоркі...
Будзем на саначках
Ездзіць мы з горкі.

Бліснула сонейка
Золатам ясным,
Ззяюць сняжыначкі
Ў полі калгасным.



Цана 30 кап.





# ЯК ДОБРА І РАДАСНА ЖЫЦЬ

*Верш ТОДАРА АЛЕСІНА*

Мы звонкія песні спяваем,
За сталь нашы песні званчэй.
Мы новы свой год сустракаем
За ўсіх весялей, шчаслівей.

Ляці наша песня праз горы,
Праз лугі і палі, рубяжы
І там, за сінеючым морам
Пра нашую радасць скажы.

Мы ўсе ў палоне ахвоты
Хутчэй быць вярхом на кані,
Бясстрашна вадзіць самалёты
І ў хвалях марскіх караблі.

Нам сонейка свеціць цудоўна
І век яно будзе свяціць;
Нас Сталін гадуе любоўна;
Як добра і радасна жыць!

Ляці-ж наша песня праз горы
Праз лугі і палі, рубяжы
І там, за сінеючым морам,
Пра нашую радасць скажы.

Рэдактар І. МАСАРСКІ | Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА | Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ.
Друкарня імя Сталіна, Менск. | 21.600 экз. | Зак. № 4314. | Ун. Галоўліта БССР № 4643.

**ПАПРАЎКА**

Па тэхнічнаму недагляду друкарні на стар. 4 пераблытаны клішэ.
Першы подпіс чытайце пад клішэ № 5, а пяты пад—клішэ № 1.